Беларуская газета

sumezhzha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№ 16 (116) Заснавана ў 1991 годзе. чэрвень 2001 г.

# ЛІНІІ КАЛГАСНАГА НАПРУЖАННЯ

Вясна. Раніца. Нясу па вясковай вуліцы вядро малака. Гаспадыня падаіла карову, нешта пакінула сабе, дадала халоднага малака ад вячэрняга даення і папрасіла мяне аднесці вядро на спецыяльную платформу пасярод вёскі. Адсюль калгасны малакавоз забярэ малако для здачы дзяржаве. На платформе ўжо стаіць некалькі вёдраў—каровы выйшлі на траву, малака паболела. Іду назад і няспешна падлічваю. Я занёс на здачу вядро, дзевяць літраў малака. А што атрымае за гэта гаспадыня. Грошай ёй хопіць на... на тры боханы хлеба, якія яна зможа набыць у аўталаўцы, што наязджае два разы на тыдзень у вёску. Для мяне гэтыя падлікі не новыя, як і ўвогуле яны не новыя для сённяшняй нашай вёскі. Вось толькі, як жартуе горка адзін знаёмы мне заатэхнік, самі вяскоўцы, што здаюць малако, лічыць яшчэ не навучыліся. Інакш бы... Але і навучыўшыся як след лічыць, вясковец у гэтых глухіх мясцінах захаду Віцебшчыны сваё малако наўрад ці куды інакш збудзе.



Пачаўшы так артыкул, я зусім не збіраюся зноў гаварыць пра непарытэт цэнаў, пра тое, пра што ўжо насмылела гаварыць усім. Так, нажніцы паміж цэнамі на сельскагаспадарчую прадукцыю і цэнамі на сродкі неабходныя для сельскагаспадарчай вытворчасці добра такі стрыгуць эканоміку калгасаў. Але ці толькі гэта адмоўна ўздзейнічае на сённяшні іх стан? Далёка не.

Адметна тое, што ўжо не толькі ў высокіх кабінетах, у асяроддзі гарадскіх рупліўцаў за перамены ў нашай вёсцы загаварылі аб неабходнасці пераўтварэння саміх калгасаў. Сёння аб непазбежнасці гэтых перамен гавораць і самі вяскоўцы. Крыху перайначыўшы былога валадара нашых думак Ульянава (Леніна), можна сказаць, што рэальная сітуацыя , калі вярхі разумеюць неабходнасць змен, а нізы адчуваюць іх непазбежнасць. Прычым адчуванне гэта з'явілася не толькі пасля заяў урада аб мяркуемых карэнных зменах, аб колькасці калгасаў у рэспубліцы, дзе рэфармаванне вымагаецца самім жыццём, яно выспела за апошнія гады не зусім удалага, як сказалі б раней, калгаснага будаўніцтва.

Гэтай вясной мне давялося прысутнічаць на справаздачным сходзе ў калгасе "Савецкая Беларусь" Докшыцкага раёна. Гаспадарка некалі эканамічна вельмі моцная, сёння, я б сказаў, сярэдне-адстаючая. Прыбытку, адным словам, за мінулы год не мела. На вытворчасць прадукцыі выдаткавала значна больш сродкаў, чым атрымала іх за рэалізацыю гэтай прадукцыі. Але аб гэтым ніжэй. Цяпер жа крыху статыстыкі. На тэрыторыі калгаса пражывае 620 чалавек. 310 чалавек, роўна палова, пенсіянеры, прычым, характэрная для нашай сённяшняй вёскі адметнасць— 217 з іх жанчыны. 80 дзяцей у калгасе і ... 140 працуючых. Застаецца яшчэ 90 чалавек. Гэта прадаўцы мясцовых крам, работнікі пошты, сацыяльнага забеспячэння, настаўнікі ну і тыя, хто жыве, як кажуць, самапаш. Яшчэ раз засяроджу вашу ўвагу, на 140 працуючых амаль 400 дзяцей і пенсіянераў, тых, хто ў многім, у вельмі многім залежыць менавіта ад калгаса ад яго паспяховай альбо непаспяховай дзейнасці. І дзеткі, якіх калгас павінен

*(працяг на 3-й старонцы)*

# РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО,

## альбо чаму нават халерны мор не мог знішчыць вёску



Якім бы зараз цяжкім і складаным не было жыццё, а набыць домік у сельскай мясцовасці не складае праблем, ды і грошай патрабуецца зусім нямнога. Але толькі рэдка з'яўляюцца такія пакупнікі, хоць у адной вёсцы Гаёўка, што ў Мёрскім раёне, стаяць і павольна разбураюцца чатырнаццаць прасторных пустых хат з добрага лесу. Нават па смешнай цане не жадаюць прыдбаць сабе кут гараджане-дачнікі, справядліва апасаючыся крадзяжоў...

Між тым не заўсёды ў гісторыі гэтага мястэчка, якое раней называлі Чарапы, было ўсё так змрочна і безнадзейна. Мянушка да паселішча, напэўна, прыклеілася ў далёкім 1830 годзе. Расказваюць, што тады зімою бачылі на вуліцы жанчыну ў чорным, якая кожнаму сустрэчнаму пагражала пальцам, прадказваючы вялікую бяду. І яна прыйшла летам, калі памерла ад боляў у жываце першая жанчына. Эпідэмія халеры недзе за паўгода скасіла ўсіх да апошняга дзіцяці. На дзіва гэта страшная навала не змагла тады перамагчы жыццё ў гэтым прыгожым кутку.

Вёска неўзабаве адрадзілася, калі спачатку сюды перасяліліся тры маладыя сям'і. Справа ў тым, што ў гэтай мясцовасці не было прыгоннага права. Называлі сялян "казённымі людзьмі", бо яны былі працаўнікамі дзяржаўнага маёнтка Курылавічы. Штодзень ад кожнай сям'і за выключэннем выхадных, дзяржаўных і рэлігійных святаў выходзіў хто-небудзь з членаў, як правіла, вялікага роду. Не тое, што цяпер, кожныя два гады ў дамах прыбаўлялася па памочніку. І што здзіўляе, жылі мужыкі нават заможней, чым пры савецкай уладзе. Ва ўсялякім выпадку раней пасля кожнага працоўнага дня кожны работнік атрымліваў узнагароду – каля чатырох кілаграмаў, або гарнец збожжа. Да таго ж свабодна карысталіся вяскоўцы сенажаццю і нават лесам, на кожны двор мелі па 10-15 дзесяцін зямлі. Здараліся, праўда, і галаднаватыя гады і дзеці памiралі ад хваробаў.

Але ў галоўным людзі былі больш разняволеныя, бо працавалі на сябе. Толькі калі ўсіх прымусова загналі ў калгас, адразу адчулі розніцу ў горшы бок. Працавалі за нейкі працадзень, а фактычна задарма. І так працягвалася апошніх больш чым паўстагоддзя. У выніку ранейшае квітнеючае месца нагадвае зараз выміраючы край. Сёння жыццё захавалася толькі ў дзесяці хатках немаладых, часцей адзінокіх людзей. Праз некалькі гадоў ужо без аніякай халеры Гаёўка-Чарапы зноў поўнасцю апусцее. Каму цяпер прад'явіць рахунак, што ў рэгіёне за апошнія 25 гадоў поўнасцю абязлюдзелі ад трэцяй часткі да амаль паловы вёсак.

Каб уявіць, якая там страшная сітуацыя, дастаткова зазірнуць у раней найбуйнейшы калгас імя Свярдлова суседняга Глыбоцкага раёна. Заканамерна, што ў год святкавання 50-годдзя з дня ўтварэння гаспадаркі, сумны спіс памёршых вёсак тут папоўнілі вёскі Дзядзюшкі і Альхімоўшчына. Апошнія гады, якія прыпадаюць на часы кiравання краінай першага "народнага" прэзідэнта, былі асабліва неспрыяльныя. Дажыліся, што тут не засталося ніводнага працаздольнага палявода, а сярэдні ўзрост калгаснікаў перавысіў 50 гадоў.

Перспектыў на адраджэнне вёскі па сутнасці ніякіх. Перш буйнейшая гаспадарка раёна, аднаго з самых моцных на Віцебшчыне, налічвала 33 населеныя пункты. На рубяжы стагоддзяў там дажываюць свой век па адной сям'і ў шасці вёсках. Яшчэ ў адзінаццаці не жывуць, а пакутуюць у адзіноце ад двух да дзесяці старых бабулек і зрэдку дзядкоў. І гэта больш заможны і ўстойлівы захад вобласці, дзе да вайны жылі людзі вольна на сваёй зямлі. Ва ўсходняй частцы Віцебшчыны, дзе калгасы існавалі 70 гадоў, яшчэ больш сустрэнеш чорных, закінутых хат, зарослых пустазеллем.

І вось на гэтым фоне раздаюцца ў нас аптымістычныя рэляцыі ўлад аб сваіх непахісных намерах захаваць буйнатаварную калгасную вытворчасць. Больш таго, заяўляюць аб рашучасці вывесці вёску на наступным этапе "на еўрапейскі ўзровень развіцця". Але ж куды пры гэтым дзецца ад таго шакіруючага факту, што за апошнія дзесяць гадоў з калгасаў і саўгасаў толькі Віцеб-

скай вобласці пайшло 10 000 механізатараў і больш 2000 даярак. У калектывах не хапае каля тысячы асноўных спецыялістаў. Настрой застаўшыхся працаваць на вёсцы яшчэ ніколі не быў такім змрочна-прыгнечаным.

А якому яму быць, калі запазычанасць па заработнай плаце за некалькі тыдняў да пачатку масавых веснавых работ дасягнула звыш двух мільярдаў рублёў. Грошай на разліковых рахунках большасці гаспадарак рэгіёна практычна няма. У тым жа Мёрскім раёне, не самым горшым у вобласці, спецыялісты райсельгасхарчу яшчэ ў пачатку зімы скардзіліся, што зноў засталіся калгасы без сродкаў на існаванне. І хоць папрацавалі нядрэнна, выканалі заданні па продажу збожжа дзяржаве нават на 103%, усе выручаныя сродкі пайшлі на ліквідацыю даўгоў і авансы. Каторы месяц фінансавае становішча не дазваляе закупіць паліва, а тузін мясцовых гаспадарак, у першую чаргу саўгас "Дзісенскі", калгасы "Язна", імя Чапаева і "Рассвет" сталі фактычна мерцвякамі.

У апошнім, наогул, сітуацыя проста жахлівая. Хранічная бяскорміца апошніх гадоў прывяла да таго, што зусім не засталося жывёлы на адкорме. Нават тых цялятак, што за бюджэтныя сродкі ўдалося прыкупіць у насельніцтва , проста не было чым карміць, ужо ў пачатку года не хапала для пракорму 422 тон саломы, не лічачы сена і канцэнтратаў. Каб выплаціць сціплы заробак за лістапад, узялі грошай у доўг у малочнага завода. З прадпрыемствам прыйдзецца разлічвацца малаком амаль што да лета. Ніхто не ведае, за што жыць, як правесці сяўбу.

І такіх калектываў на вёсцы зараз пераважная большасць. З пяці соцень калгасаў і саўгасаў Віцебшчыны добрыя чатыры сотні амаль поўнасцю згубілі свой абаротны капітал. Цэнтральная і мясцовая ўлада спісвае свае памылкі і хібы ў правядзенні бязглуздага курсу на іншых. Толькі за 1998-99 гады ў вобласці памянялі 296 кіраўнікоў гаспадарак, або больш паловы. Здаралася, за адзін год старшыні мяняліся двойчы ў 17 калгасах, але лепш не стала. Сёлета падрыхтоўка да веснавых работ найбольш складаная, нават старажылы не прыгадваюць, каб трэць тэхнікі і пасяўных агрэгатаў у сакавіку былі няспраўнымі і столькі не хапала ўгнаенняў, сродкаў аховы раслін і паліва.

Са здзіўленнем даведаўся, якія меры прыдумалі для выратавання становішча. На Міншчыне загадалі правесці цэлых тры прымусовых суботнікі ў падтрымку вяскоўцаў. Кажуць, што ў суседзяў-віцяблян выйшла неафіцыйная дырэктыва... аб забароне старшыням калгасаў і дырэктарам саўгасаў на перыяд сакавіка-красавіка пакідаць гаспадаркі і выязджаць за межы раёнаў без дазволу вышэйстаячага кіраўніцтва. Адпаведна і раённае кіраўніцтва не можа нікуды паехаць на гэты час без узгаднення з абласнымі структурамі. Гэта нешта новенькае ў айчыннай гісторыі.

Зрэшты, прэцэдэнты адміністрацыйных дзівосаў у краіне ўжо назіраліся. У далёкім сакавіку 1936 года ў СССР быў прыняты закон, які фактычна вярнуў у вёску прыгоннае права. Тагачаснае заканадаўства забараніла калгаснікам пакідаць гаспадаркі і выязджаць з вёскі без падпісанага праўленнем пагаднення з адміністрацыяй заводаў, фабрык у гарадах. Гэтае права, як і пашпарты сялянам, вярнулі толькі ў 60-х гадах. Але пры Лукашэнку зноў па сутнасці прыгонных калгаснікаў зноў адказваюцца браць на працу па за межамі вёскі, бо існуе такая каманда.

Жахліва, што час ідзе, а нічога ў нас не мяняецца. Дакладней ,стала яшчэ горш. Вёска ціха памірае і толькі на цэнтральных сядзібах яшчэ захавалася нейкае падабенства складнага жыцця. Здаецца, і сёлета абмяжуемся толькі размовамі аб наспеўшым рэфармаванні гаспадарак. Аднак бясконца доўга здзекавацца з зямлі і людзей, якія жывуць на ёй, не атрымаецца. Інакш, ужо праз пару дзесяцігоддзяў проста не будзе каму карміць нас з вамі і без усялякага халернага мору.

***Уладзімір Шык.***

××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××××

# ЛІНІІ КАЛГАСНАГА НАПРУЖАННЯ

***(працяг, пачатак на 1-й старонцы)***

падвозіць з аддаленых вёсак у школу , у школе карміць (карміць!) бясплатным абедам, і пенсіянеры, якія без калгаса ўвогуле запусцяць свае соткі. Колькі зямлі без нічыёй дапамогі апрацуе адзінокая старая жанчына? Вось чаму нават гіпатэтычная ліквідацыя калгаса страшыць людзей неймаверна. Вось чаму і размовы пра ліквідацыю ісці не можа. Але ж людзі бачаць, што год ад году стан гаспадаркі горшае, адпаведна менее і тая дапамога, якую можа прадаставіць яна людзям—большай і самай безабароннай частцы вясковага насельніцтва. І калі б была такая магчымасць сабраць усіх 450 членаў калгаса ( а пенсіянеры таксама члены калгаса) і прапанаваць ім самім вырашыць лёс калектыўнай гаспадаркі—за захаванне яе былі б практычна ўсе. У той жа час нават пенсіянеры бачаць неабходнасць нейкіх перамен, хаця і страшацца іх.

На тым калгасным сходзе я запісаў яшчэ некалькі цікавых лічбаў. Атрымліваецца, што ў 2000 годзе на кожнага працаздольнага калгасніка прыпадае рэалізаванай прадукцыі на мільён рублёў.З іх каля 400 тысяч калгаснік атрымаў у якасці аплаты сваёй працы. Зарплата невысокая, але ж працэнт ад выручкі вялікі. І калі ўмоўна абысці тыя запазычанасці, што мае гаспадарка, перад калгаснікамі на сходзе была ясна пастаўленая мэта: больш будзе прадукцыі—адпаведна большымі будуць і заробкі.

Але вось прыкмет аптымізму на тым сходзе я не бачыў. Як не бачу яго і ў час іншых сустрэч з вяскоўцамі.

***Алесь Касцень.***

розныя рэчы. Усе ведаюць, што маніць нядобра, нядобра чорнае называць белым. Лукашэнка безумоўна моцны аратар, умее схіліць да сябе аўдыторыю, выклікаць патрэбнае ўражанне. Толькі гаворыць ён рэчы, у якія часцяком сам не верыць, і ўвесь свой прыродны артыстызм кіроўвае на тое, каб прыпаднесці іх больш пераканаўча. Сам сябе пры гэтым накручвае, па-акцёрску "уваходзіць у роль"… З пункту гледжання палітыкі, гэта, напэўна, нармальна. А з чалавечай… Канечне, па характару ён мэтанакіраваны. Але мэта гэта – задавальненне ўласных амбіцый, абсалютная ўлада, дзеля яе Лукашэнка нічым не грэбуе… Слабыя бакі? Ну, напрыклад, некампетэнтнасць пры празмерным памкненні кантраляваць усіх і ўсё… Асабістая няўжыўчывасць, рэдкаснае ўменне нажываць ворагаў на пустым месцы… А помслівасць, пра якую ведаюць усе, хто з ім сутыкаецца? Вы паглядзіце, у што ператварылася Беларусь, паглядзіце на ўзровень нашай эканомікі, на адносіны да нас у свеце – гэта ўсё вынікі яго дзейнасці. Увогуле паназірайце за нашым грамадствам: людзі пазбягаюць адзін аднаго, баяцца шчырасці, робяцца злейшымі, зайздроснымі. І ўсё гэта ідзе ад кіраўніка дзяржавы.

***- Але па вуліцах пройдзешся – ніхто, здаецца прытомнасці ад голаду не губляе. Аўтамабіль ўжо даўно не раскоша…***

- Не забывайце пра такую якасць беларусаў, як прыродная выжывальнасць! Бульба, памідоры – з дач… Грошы – за кошт таго, што недасыпаюць, у выхадныя не адпачываюць, усялякую магчымасць для падзаробку выкарыстоўваюць… Людзі, як могуць, круцяцца, супрацiўляюцца ўсяму, што на іх напаўзае. Адзін рост цэнаў успомніце… Усё гэта можа вытрымаць толькі беларускі народ. Другі іншы ўжо даўно прагнаў бы такую ўладу! А Лукашэнка… Вы звярніце ўвагу: ён на сябе рэальнай адказнасці ні за што не бярэ. Затое рэгулярна праводзіць тэлевізійныя публічныя лупцоўкі чыноўнікаў: вось хто, мабыць, ва ўсіх правалах вінаваты, а я хачу як лепш. Вечная гульня ў добрага цара і злых баяраў. Затое калі дзе поспех - адразу падкрэсліваецца: без Аляксандра Рыгоравіча не абышлося.

На сённяшні дзень адзінае рэальнае дасягненне цяперашняй улады – тое, што ў нас своечасова выплочваюцца заробкі ( і то не ўсюды) і пенсіі. Мізэрныя – затое своечасова. Тут больш палітычныя меркаванні: вельмі важна добра выглядаць на фоне Расіі і Украіны. Але, прабачце, заробкі і пенсіі і павінны выплочвацца своечасова! Тое, што ў суседзяў бардак – не прычына самазаспакаення.

Увогуле, славутая беларуская стабільнасць у немалой ступені забяспечваецца расійскімі тэлеканаламі. Яны там не прыціснутыя, паказваюць усё, як ёсць, прычым журналісты так зроблены, што заўсёды шукаюць падзеі вострыя, скандальныя, таму здаецца, быццам Расія – гэта краіна, дзе без канца нешта ўзрываецца, замярзае… На такім фоне нармальны чалавек, зразумела пакурчыцца: у нас лепш. Тым больш, што на Беларускім тэлебачанні – поўная цішыня, пастаянныя поспехі на фоне часовых цяжкасцей.



## "Пяць лепш, чым тры"

***- Не так даўно пяць патэнцыйных кандыдатаў – Сямён Домаш, Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір, Уладзімір Ганчарык і Сяргей Калякін – выступілі з адзіным зваротам да выбаршчыкаў і правялі агульную прэс-канферэнцыю. На пытанне, што вас аб'яднала, генерал Казлоўскі адказаў жартам: "Пяць лепш, чым тры" (маецца на ўвазе, што яшчэ нядаўна галоўнымі кандыдатамі ад апазіцыі лічыліся Чыгір, вы і Ганчарык). А на самой справе – чаму такія розныя людзі сабраліся разам?***

- Я ўжо казаў, што Лукашэнка валодае дзіўнай якасцю ствараць сабе ворагаў. Так што ў вядомым сэнсе ў нашай пяцёрцы не толькі тыя, хто знаходзіцца ў апазіцыі да рэжыму, але і тыя, да каго рэжым знаходзіцца ў апазіцыі. Тут важна падкрэсліць: гэта не блок, не кааліцыя. Хутчэй, скажам так, саюз людзей, дамовіўшыхся аб каардынацыі дзеянняў у час перадвыбарчай гонкі. Усе ж разумеюць, з кім прыйдзецца мець справу! І каб арганізаваць, напрыклад, масавае назіранне ў час выбараў, рэсурсаў аднаго кандыдата мала. Тут трэба аб'яднаць усе сілы - таму Казлоўскі кажучы, што "пяць лепш, чым тры" абсалютна мае рацыю. Акрамя таго, у нас агульнае бачанне сітуацыі: мы ўсе лічым, што ўнутраная палітыка Лукашэнкі вядзе краіну да эканамічнага калапса, да сацыяльнага выбуху, што фактычна

міжнародная ізаляцыя Беларусі пазбаўляе краіну перспектыва... Значыць – можам дамовіцца і аб шляхах выхаду з тупіка. Магчыма, з нашай пяцёркі вылучыцца і адзіны кандыдат. Пакуль сыйшліся на тым, што называць яго імя рана, уперадзе яшчэ сіта рэгістрацыі, а "засекчы" засвечаную фігуру ўладам будзе працей простага.

## "Нацыяналіст і бэнэфавец"

***- Пакуль што афіцыйная прапаганда не можа засяродзіцца на кімсьці адным і аблівае памыямі кожнага кандыдата асобна. Ролі ўжо размеркаваны: Чыгір – злодзей і бацька злодзея, Казлоўскі ракеты распрадаваў... Домаш, адпаведна, злосны нацыяналіст, стаўленнік БНФ, які, зразумелая справа, за "Беларусь для беларусаў"...***

- Гэта, напэўна, ад таго, што я свабодна валодаю беларускай мовай. І сапраўды лічу, што нет нічога дрэннага, калі дзяржаўны служачы на пытанне, зададзенае па-беларуску, зможа па-беларуску ж і адказаць...

Што тут скажаш? Пра цябе нешта выдумаюць, налепяць ярлык, а ты адмывайся? Недарэчны занятак.... "Беларусь для беларусаў" – ідыёцкі лозунг ў шматнацыянальнай і шматканфесійнай краіне. Калі хто-небудзь з нашых грамадзян, не беларус па нацыянальнасці (рускі, паляк, літовец, татарын, хто заўгодна!), у нечым такім падазрае Домаша... Ну, не ведаю... Патэлефануйце сваім знаёмым на Гродзеншчыну, спытайцеся – ці зацiскалася пры маім губернатарстве хоць адна нацыянальная меншасць ці рэлігійная абшчына? Ці было, каб Домаш рухаў наперад людзей па нацыянальнай прыкмеце, а не па чалавечым і дзелавым якасцям?... Пра адносіны з Расіяй мы з вамі ў мінулы раз гаварылі: максімальная эканамічная інтэграцыя.

"Стаўленнік БНФ?" Шмат якія сябры Фронту сапраўды заяўляюць, што гатовыя мяне падтрымаць. Дык што ў гэтым дрэннага? У нашых умовах сёння любая падтрымка вельмі важная.

Ага, забыўся, мяне ж яшчэ "празаходнікам" называюць. Што ж, калі лічыць, што нам не грэх пераняць заходнія вытворчыя тэхналогіі, дзелавую хватку, арганізаванасць у працы, дамовіцца аб інвестыцыях, якія мы можам толькі там атрымаць, - тады сапраўды, я "празаходнік". Калі лічыць (а я ў гэтым упэўнены!) што беларускі народ можа і павінен жыць не горш, чым немцы ці французы, - то я "празаходнік".

***- Хто з палітыкаў вам найбольш імпануе?***

- Нашых ці...

***- Возьмем расійскіх – яны ярчэй раскручаныя.***

- Цяжка сказаць. Я то сам найперш за ўсё гаспадарнік, і пагэтаму выдзяляю многія станоўчыя якасці, напрыклад, Лужкова. Пуцін вельмі граматна дзейнічае: трапна выдзеліў, у чым зараз галоўныя расійскія інтарэсы, разумна іх абараняе. Чубайс ці Нямцоў? Я ў многім не згодны з тым, як яны праводзілі рэформы, аднак аддаю належнае: людзі гэта безумоўна сур'ёзныя, дзелавыя і заслугоўваюць таго, каб да іх прыслухоўваліся.

Але ведаеце, мне здаецца, што параўноўваць трэба не з Расіяй – вялікая краіна, са сваімі асаблівасцямі, праблемамі. А ў нас пад бокам, па суседству, адбыўся палітык вышэйшага класа – прычым у дзяржаве, вельмі падобнай на Беларусь. Маю на ўвазе Альгірдаса Бразаўскаса. Вы паглядзіце: калі б у свой час Гарбачоў не адмахнуўся ад яго прапаноў, магчыма мы б зараз жылі ў іншых умовах. І калі потым Бразаўскас стаў на чале суверэннай Літвы, ён змог забяспечыць ёй рэальны эканамічны ўздым, збярог міжнацыянальны мір і ў рэшце-рэшт дэмакратычным шляхам перадаў уладу, застаўшыся ў вачах суайчыннікаў паважаным, папулярным чалавекам. Зараз ізноў вярнуўся ў палітыку. Ці не прыклад для беларускіх лідэраў?

### Вяртаючыся да надрукаванага

***Для тых, хто не чытаў нашу папярэднюю размову з Сямёнам Домашам, паведамім некаторыя падрабязнасці яго біяграфіі. 51 год; з сялянскай сям'і; сын франтавіка, інваліда Вялікай Айчыннай. Пасля тэхнікума прыйшоў зменным механікам у Астравецкую аўтабазу, у 24 гады быў ужо яе дырэктарам, потым кіраваў буйнейшай аўтагаспадаркай рэспублікі – Гродзенскім аўтакамбінатам №1. Адтуль быў узяты на партыйна-гаспадарчую работу. Займаў важныя адміністрацыйныя пасады пасля распаду Савецкага Саюза. У 1996 годзе, у час лукашэнкаўскага рэферэндума, адкрыта перайшоў у адкрытую апазіцыю да Лукашэнкі. Дзве вышэйшыя адукацыі. Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, двое дарослых сыноў.***

## Проста па ходзе размовы

- Сямён Мікалаевіч, якая па-вашаму самая дакладная кніга пра беларусаў?

- Напэўна, быкаўскі "Сотнікаў". Там усё пра нас... З аднаго боку – спакойная мужнасць, гераізм, з другога – схільнасць да канфармізму, каб "абы ціха". Адначасова неверагоднае працалюбства, гатоўнасць прыйсці на дапамогу трапіўшаму ў бяду, здольнасць цягнуць лямку ў нечалавечых умовах – і пакорнасць, прыніжанасць перад самавольствам улад... У "Сотнікаве" дзеі адбываюцца ў час вайны, калі ўсё абвострана, у звычайным жыцці гэтыя нацыянальныя рысы змазаныя, не так прыкметныя. Але ж яны застаюцца, праўда?

***Гутарку вёў Сяргей Манастырскі***

# ВЯСКОВЫЯ ГІСТОРЫІ

## У нас свае дзівакі

Дзядзька Пётра няспешна закурвае:

"Вось усё пішуць: вёска - аснова, селянін - разумны чалавек. Каб жа так, а то цуру-ру. Шмат у нас дурняў. І, пэўна, больш, чым у горадзе. І такія сустракаюцца, скажу я табе, братка, што ці смяяцца, ці плакаць - не ведаеш.



Напрыклад, у Аўсяніках Альжбэта. Не старая яшчэ баба, маіх гадоў. Калі малако збіраў, як ні прыеду ў яе дварышча, усё пытае:

- Ну як у вас мароз? Нас жа зусім замарозіў. А мо'ў вас цяплее?

А летам:

- А мо'ў вас не так пячэ? У нас жа ўсё папаліла.

І сур'ёзна так. Ей ногі баляць, дайсці не можа, хоць ад нас да Аўсянікаў кіламетра няма. А цікава ж.

Гэта жанчына. А мужыкі.

Я яшчэ малады быў, толькі з Казахстана вярнуўся. А жыў у нашай вёсцы такі Стэпка. Са старой сваёй. Тырчэў у яго спераду гнілы зуб. Ну, тырчыць і тырчыць - не баліць жа. Ды што ўдумаў, сівізна. Нагледзеўся, відаць, у начальства гэтых фіксаў залатых... Іду я аднойчы ля іх хаты. Летам, акно адчыненае. Чую, старая лямантуе як па памерлым. Я ў хату, думаю, можа са Стэпкам што. Уваходжу.

Стэпка кружаляе па хаце, схапіўшыся рукамі за галаву. І толькo:

"Ы-ы,ы-ы,ы-ы".

Жонка галосіць, Стэпка мычыць.

Хвілін пяць не мог я даць рады. Урэшце разявіў Стэпка рот. Гляджу. на месцы гнілога зуба блішчыць нешта.

- Што гэта?

- Ы-ы, ы-ы.

Я да жонкі:

- Што ён тут утварыў?

Гляджу, а тая ўжо абцужкі мне падае.

- Пётрачка, міленькі, ратуй. Рві гэту погань.

Нічога не разумею. Гляджу на Стэпачку, а той толькі галавой хітае, маўляў, рві. Ну, учапіўся я абцужкамі, рвануў і тое блішчастае, і тое гнілое.

Адпляваўся Стэпка, адышоў крыху і расказаў, што гэта ён вырашыў сабе фіксу паставіць. А каб танней было, скляпаў з кансервавай бляшанкі. Я потым паглядзеў, так жа ладна выштукарыў, дурань, цюцелька ў цюцельку. Ну і загнаў на свой гнілы зуб. А як засмылела, пачаў кругі па хаце наразаць.

Ды што там. У нашым калгасе два пастухі што ўдумалі. Быў у аднаго кабялёк. На пасце - ні адной каровы не адпусціць. Толькі загана ў яго: як ужо пайшоў па сучках - не чакай. І тры дні, і больш. А без яго мужыкам пабегай. Вось і вырашылі яны аднойчы яго лягчаць, кастрыраваць значыць. Маўляў, тады ён будзе толькі ў рабоце, сучкі - па баку. Выпіўшы былі, канешне, але ж дурань, ён заўсёды дурань.

І кажа адзін другому:

- Ты вазьмі плашч і абкруці ім галаву і пярэднія ногі сабакі, каб не пакусаў, не абадраў. А я за заднія ногі і ножыкам чык-чырык.

Так і зрабілі. На пашы паклікалі сабаку, схапілі, укруцілі ў плашч. Але толькі той ножыкам рэзануў - сабака як ірване.

Месяц не было. Раны недзе залізваў. А потым з'явіўся. Нічога, сабе, служыць. Праўда, толькі да тае пары, пакуль яго прырода не адолее. Тады, як і раней, знікае.

Але ж новая бяда. Плашч. У нас усе пастухі носяць такія плашчы ў дождж. Вайсковыя, з гумы, ад хімічных касцюмаў. Яны доўгія, ніколі не прамакаюць і не цяжкія. Зручна. Дык вось сабака цяпер той плашч надух не пераносіць. Дзе б то ні было, нават у хаце. Толькі гаспадар за гэты плашч возьмецца -сабака стралой з хаты. І некалькі дзён недзе прападае. Так што яго гаспадар цяпер і ў дождж на пашы ў ватоўцы мокне. Калі не хоча за каровамі сам бегаць".

*Алесь Касцень.*

**Заснавальнік: Пастаўская раённая арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны**

Рэдактар: **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л.Сапегі»